№ 22 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33. Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 22 (218). Год III. Вільня, 15 марца 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.

## 14 марца.

**Заходні тэатр:**

Між Ліс і Скарп, наабапал Масу і ў палудзенна-заходнім Эльзасе, ў ваколіцах Альткірхэна, ворагі развівалі жывую артылерыйскую чыннасць. На рэшці фронту гэтак сама востры агонь. Між пазыціямі ваюючых старон — дробные пяхотные бітвы.

---

У бітвах на паветры збіты 17 варожых самалётаў і 3 прывязные лятучые шары. Ріхтгофэн дайшоў 65 пабеды.

**Усход.**

Згодне з умовай з румынскім урадам, нямецкіе войскі з Брэіла праз Галяц і Бэндэры, пасьля стычкі пры Мордаванцы, **занялі Одэссу.** За імі са Жмэрынкі прыйшлі аўстрыякі.

---

ПЕЦЯУРБРГ. Японскіе войскі ўмешаліся ў бітву між большэвікамі і расейскім войскам пад камандай Семёнова. Два японскіе і 1 кітайскі полк сур'ёзна разграмілі большэвікоў. Палажэньне войск рады ў Манджурыі — сур'ёзнае.

БЭРЛІН. Прэдстаўнікі ўсіх саюзьніцкіх дзержаў, паводлуг вестак з Лёндона, падпісалі **у Порт-Артуры конвэнцію** аб меры японскага выступленьня.

Вільсон прыстаў на яго с тэй умовай, каб Японія дала формальнае заверэньне, што яна выступае проці Нямеччыны, а не проці Расеі.

ПЕЦЯРБУРГ. Украінская рада раб. і салд., пераехаўшая с Кіева ў Харкаў, як пішэ газэта «Ізвестія», уцёкла і с Харкава.

Уласьці цэнтральнай украінскай рады ўзялі ў свае рукі упраўленьне Харкавым.

Сіла большэвікоў чэзьне і ў усходняй Украіне. Народ жджэ прыходу украінскіх войск і войск цэнтральных дзержаў.

ПЕЦЯРБУРГ. У Казані, паводлуг вестак з Масквы, узняліся крывавые бітвы між большэвікамі і жыхарамі места, організоваўшымі самаабарону. З абодвых бакоў выступала артылерыя. Место вельмі пацярпело. Чысло забітых больш за 700. Бітвы дагэтуль не далі нікому перэвагі.

БУДАПЭШТ. С прычыны безупынных задзержэк, вызываных частымі паездкамі румынскіх дэлегатаў у Яссы, **мірная умова з Румыніей будзе падпісана толькі 25 марца.**

Некаторые **часці Бэссарабіі з румынскім насяленьнем** мо' будуць прылучэны да Румыніі, як компэнсація за Добруджу.

Румынскіе землі, дзе дабываецца газа, прынамсі часьцю пяройдуць да Вэнгрыі, але будуць аставацца пад загадам Нямеччыны, Аўстрыі, Румыніі і Боўгарыі.

БЭРЛІН. Прэзыдэнт Вільсон маніцца высказаць у скорым часе спогад Амэрыкі румынам с прычыны пастаўленых ім варункаў міра.

Урадовые кругі заяўляюць, штоо Амэрыка за варунак агульнага міра лічыць поўную адбудову Румыніі у старых межах.

БУКАРЭШТ. Віцэ-прэзыдэнт боўгарскай дэлегаціі заявіў, што пасьля энэргічнай наддзержкі нямеччынай дамаганьняў Боўгарыі звароту ей Добруджы боўгарскі народ цьвёрда пастанавіў далей вясьці вайну датуль, пакуль немцы на здолеюць дайсьці міра на аснове, каторая зробіць немагчымай грозьбу яе бытаваньню.

БЭРЛІН. В.Т.Б. наказывае с Фляндрыі аб узросьці ў апошнім часе разведак на фронці з абодвых бакоў. Каб разведаць аб нямецкіх прыгатаўленьнях, саюзьнікі прымушаюць і бэльгійскую армію да частых разведачных наступленьняў па начох.

ЛОНДОН (Рэўтэр). **Урадова.** Страты ў часе апошняга налёту с паветра даходзяць 20 забітых і 40 раненых.

ЛОНДОН (Рэўтэр). У ніжняй палаце міністэр блокады, Сэсіль, заявіў, што за апошніе месяцы Англія не давала пазваленьняў на вываз спажыўных прадуктаў у Голандзію, Норвэгію, Данію, Швэцію.

БЭРЛІН. **Урадова.** 14.III. Імпэратар прыняў на аўдыэнціі генэрал-губэрнатара Польшчэ v. Бызэлера.

ЛОНДОН (Рэўтэр). На мейсцо памершага галавы ірляндзкіх нацыоналістаў, Рэдмонда, ўсемі галасамі выбран Дільлён. Пры гэтым сіннфэйнэры заявілі, што ірляндзкі народ можэ быць здаволен толькі аддзяленьнем ад Англіі.

---

## Весткі з Меншчыны.

**Памятка беларусам маскоўскай прыхільнасьці.**

Пад гэткім назовам „Вольная Беларусь“ пішэ:

„Калі ў Расеі панаваў цар, дык нам казалі, што у нацыанальным уціску вінаваты ні народ вялікарускі, а толькі яго цар, хоць трудна было зразумець, хто забараняў вялікарускай інтэлігэнцыі абстаіваць напрыклад, нацыаналізацію школ.

Потым, як скінулі у Расеі цара, а тым часам нацыанальнай палёгкі не прышло, дык гэта тлумачылі тым, што к раўніцтво ў дзяржаві захапіла буржуазія ды й ні час, моў, займацца нацыанальным пытаньнем. Вось прыдуць социалісты, дык тые ўжо зробяць і кожнаму ўнаровяць.

Прыйшоў соцыаліст — міністэр А. Керэнскі, ні вагаючыся, абвесьціў, што «не отдастъ достоянія революціонной Россіи и будетъ защищать яго кровью и желѣзомъ». Так пагражаў ён Украіні і Фінляндзіі, калі тые паверылі слову вялікарускай дэмакрацыі ды сталі «самоопредѣляться». Прыхільнікі маскоўскай арыентацыі занiпакоіліся але іх усьцешылі тым, што Керэнскі падупаў буржуазнаму уплыву, а вось хутка прыдзе настаяшчая соцыалістычная дэмакрація, тагды... тагды народы Расеі атрымаюць поўную магчымасць самаазначэньня і нават моцімуць падтрыманьне.

Сталі чакаць і дачакалися. Прышоў большэвізм і запанавалі на Беларусі т. званые «народные комисары Зап. Области». Настаў час запраўднаго уладарства маскоўскай дэмократыі. Заварушылася і Беларусь. Сабраўся першы усебеларускі зьезд. А велікаруская дэмакрація праз сваіх кіраўнічых стала памагаць беларускаму нацыональнаму вызваленьню такім абычаем:

I.

**Тэлеграма.** Заходні фронт, **Полукорову.** Накажыце таварышам, каб на зьезьдзе беларускае Рады яны зробілі пераварот думак, раскол і выказалі буржуазнасць яе. Гэта патрэбна. **Главкозап Мясьнікоў.**

II.

**Камісарыат унутраных спраў заходняга краю. 17 сьнежня 1917 г. № 1425.** Таварышу Рэзанскаму. Прыказываем, маючы пад сваім загадам даволі аружнай сілы, акружыць будынак, дзе заседае Беларускі Зьезд, арыштаваць прэзыдыум Зьезду, а таксама выбраны ім орган краёвай уласьці; паклікаць з Зьезду таварышаў большэвікоў і стоючых на пункце ўласьці Рад, а самы Зьезд абвесьціць распушчэным.

Камісар К. Ландэр.

Сэкрэтар (подпіс).

III.

**Рада Работніцкіх і Салдацкіх дэпутатаў м. Менска. Аддзел дзеля барацьбы с контррэвалюціей і спэкуляціямі. 31 студня 1918 г. № 39.**

Таварышу Ярашэвічу.

Ордэр.

Прыказываю Вам пайсьці ў Беларускую Вайсковую Раду, дом № 2, кв. 10, на Паліцэйскай вуліцы, каб абыскаць і арыштаваць усіх асоб, што там ёсць, у тэй лічбе і хлопчыка-пасланца Апанаса.

Прэзэс **А. Л. Рэзанскі.**

Сэкрэтар **Эв. Барэнс.**

IV.

**18 лютага 1918 г. № 83.**

Таварышу Ярашэвічу

Ордэр.

Загадываю Вам арыштаць члена цэнтральнага спаўніцельнага Камітэту Беларускай Вайсковай Рады Алексюка і прывесьці яго ў аддзел.

Прэзэс **К. Ландэр.**

Сэкрэтар (подпіс)

Апошні „ордэр“, пішэ „Беларуская земля“ падпісаны дрыжачай рукой Карла Ландэра, каторы пэўня прачуваў, што роўна праз пару дзён гэны дакумэнт пападзе ўжо ў архіў перасьледаванай ім Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады“.

Гэтые ўсе дакумэнты былі знойдзены ў паперах „народных камісараў“ посьле таго, як яны паўцекалі з Менску перад прыходам немцаў.

**Менскае Беларускае прэдстаўніцтва.**

У тым жэ нумэры „Беларускі Шлях“ наказывае: 25 лютага адбылося сабраньне беларусаў — прэдстаўнікаў ад усіх слаёў насяленьня. На гэтым сабраньні выбраны з 9 чэлавек камітэт пад назовам: „Менскае Беларускае Предстаўніцтва“. Камітэт мае за заданьне прэдстаўляць інтарэсы беларускага народу і быць нацыональным цэнтрам, куды за ўсякімі спраўкамі маюць звярачывацца ўсе, каму дарага незалежнасць Беларусі, культура і самабыцьце беларускага народу. — У камітэт увайшлі: протоерэй Кульчыцкі, генэрал Кандратовіч, ксёндз Годлеўскі, Скірмунт, Уласоў, Аляксюк, Чаўсоў, Зямкевіч і Русецкі.

пасьледзтвы яго. Урэшці, нямецкі тэкст з расейскім перакладам аддадзен расейскай дэлегацыі. Наша прэдлажэньне утварыць асобные камісіі расейскіе дэлегаты адкінулі і заявілі, што прынімаюць нашу умову цалком. Самая умова падпісана толькі 3 марца паабедзі.

«Усе паступкі расейскіх, делегатаў у Брэст-Літоўску паказывалі, што фраза аб гвалце была ўжо напярод уложэна ў Пецярбурзі. Расейскі народ не дасць ашукаць сябе гэткімі гістэрычнымі спробамі большэвікоў апраўдацца. Расейскі народ мог бы дайсьці міра з намі ўжо некалькі месяцаў таму назад, каліб расейскі ўрад не стаўляў рэволюцыйную пропаганду вышэй за дабрабыт сваей бацькаўшчыны».

## Украіна.

ВЕНА. Як наказывае „Fremden-Blatt", украінскае прэдстаўніцтво у венскім парлямэнці разаслало гэткае апавешчэньне.

«У парлямэнцкіх кругах ходзяць чуткі, бытцым прыехаўшый са Львова мітрапаліт гр. Шэптыцкі здведаў Вену дзеля таго, каб пачаць перэговоры аб палюбоўнай развязцы холмскага пытаньня, і бытцым ён адбыў аб гэтым нараду з галавой украінскага клюбу, доктарам Пэтрушэвічам.

«З гэтай прычыны украінскае парлямэнцкае прэдстаўніцтво заяўляе, што чуткі гэтые ні на чым не асновані і што, на пагляд украінскага парлямэнцкага прэдстаўніцтва, пастановы брэсцкай умовы — гэта справа інтэрнацыональная, аб каторай ня можэ быць ніякіх міжпартыйных перэговораў. Справа гэта належыць толькі да прэдстаўніцтва украінскай рэспублікі, як суверэнная дзяржавы, і тых гасударств, с каторымі зроблена умова.

«Гэта заява апавешчаецца дзеля агульнага ведама паводлуг умовы з мітрапалітам гр. Шэптыцкім, каторы прыехаў у Вену на заседаньня палаты паноў».

ВЕНА. Арцыбіскуп мітрапаліт гр. Шэптыцкі ў часе нарад над выражэньнем даверыя гр. Чэрніну ўзяў слова і заявіў, што мір з Украінай ня мог быць падпісан на іншых умовах, як ужо прынятые; у сваей прамове ён падтрымлівау украінскіе дамаганьня.

## З усяго сьвету.

БУДАПЭШТ. Аб перэговорах з Румыніей апавешчаюць, што да 14 марца адбываліся толькі нарады камісій. Атрымаўшы новые інструкцыі, румынскіе дэлегаты з Ясс аканчацельна уложаць форму умовы. Румынія, рахуючыся з реальным палажэньнем, будзе ў будучыне шукаць палітычнай звязі с цэнтральнымі дзержавамі, каторые са свайго боку не супраціўляюцца прылучэньню да Румуніі часьці Бэссарабіі, дзе жывуць румыны.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Урадова 13.III. Імператар, прыехаў сюды, прыняў на аўдыэнціі фэльмаршалка Гіндэнбурга, а пасьля канцлера Гэртлінга.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Пецярб. Тэлегр. Агенцтво апісывае бутцым то зьдек нямецкіх войск у Вольмары, павесіўшых на рынку 200 асоб. Папраўдзі-ж было гэтак: Нямецкая рота, занімаючы Вольмар, сустрэла адпор банд, ратаваўшых места і ваколіцы. Яна арэштавала каля 30 душ, ды с-паміж іх пакараны сьмерцю толькі 5. У чысьле апошніх быў і член камітэту, Дільле, каторага спаймалі с палічным, як галаву рабаваўшай банды.

БЭРЛІН. Паводлуг вестак з Лёндона, Ллейд Джорж едзе у Амэрыку, каб самому разгаварыцца с прэзыдэнтам Вільсонам аб японскім выступленьні, вызваўшым нязгодлівасць між эўропэйскімі дзержавамі і Амэрыкай.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Урадовы праект закона аб павялічэньні чысла дэпутатаў с 397 да 441 аддадзен у камісію дзеля спраў конституцыі. Паводлуг гэтага праекту ў вялікшых выбарных округах заводзяцца пропорцыональные выбары.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

13.III. Заходні тэатр:

Шмат на якіх адрэзках у вечары крапчэла артылерыйская бітва. Пры Н'ю-Порт у часе разведкі ўзяты ў палон 1 афіцэр і 30 салдатаў. На ўсходзі ад Зоннэбэкэ і Фромэль узяты 23 англічане і португальцы. У Шампані, пры Прон нашы дружыны ўварваліся ў французскіе акопы і вярнуліся адтуль, вядучы 90 палонных.

Учора мы збілі 19 варожых самалётаў і 2 прывязные лятучые шары.

**Усход**

Нямецкіе і аўстрыяцкіе войскі стаяць перад Одэссай.

**Македонскі фронт.**

Пры Макове, ў завароці Чэрнай крапчэў французскі агонь.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЕРЛІН (В.Т.Б.). Марскіе лятучые сілы ў начы з 10 на 11 марца абкідалі шчодра і з добрай удачай партовые і ваенные будоўлі ў Нэаполі.

РЫМ. (Стэфані). У апошнюю ноч варожые лятучые сілы а 1 г. ў начы зрабілі налёт на Нэаполь і скінулі ў цэнтры места 20 бомб. Між цывільнымі жыхарамі ёсць ахвяры, ў тым ліку сёстры міласэрные.

РЫМ. Газэты апісываюць агульны перапуд с прычыны налёту на Нэаполь, каторы с прычыны далечыні лічыўся вольным ад небасепекі. Варожые лятуны маглі вылецець толькі са Спалято, Катарро ці Дураццо, значыць, павінны былі перэляцець над Адрыятыцкім морэм на адлегласьці 352, 407 або 448 кіл. Налічэно 16 забітых і 60 раненых.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У начы з 12 на 13 марца эскадра нашых марскіх лятучых судзен удачна атакавала ваенные будоўлі у Англіі на Эмбэры і у графстве Іорк. Ня гледзячы на гарачую зашчыту артылерыі, ўсе лятучые караблі вярнуліся назад.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У паўночных водах нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі 19.000 тонн.

Калі ў землю зярнё кінеш,
Нясе табе зёран ста;
Як зарыеш ў землю грошы,
Грошы табе паесць ржа.

Чаму ж багач гаршчок грошы
У сыру землю закапаў?
Штоб паела ржа чырвоныя,
Гаршчок грошай каб прапаў.

Хто ведае, што смерць нясе
Ці гарачка, ці пярун?
Як не скажэш, то не найдзе
Грошай тваіх сын пастун.

Лепш бы купіць солі, мыла,
Нарогаў, сярпоў і кос,
І штоб сынок для прадажы
Усюды па сёлах павёз.

Меў бы і ты заработак,
Усё б дома было у нас;
Не ждалі б кварты солі,
Нім пройдзе жыдом шабас.

Не ржавелі бы чырвонцы,
Чорт не браў бы іх ў зямлі;
Ня былыб ты бедны з грошмі,
Ні бедны бяз грошай мы.

* * *

Вывядзіце жоначкі
С карчмы мужыкоў;
Вазьміце за рукаў,
Скажыце: дамоў!

Дзетачкі бяз хлеба
Плачуць і крычаць;
Волікі рыкаюць,
Кароўкі мычаць.

Конік пад карчмою
Увесь дзень стаіць;
Ніхто яму не даў,
Ані есць, ні піць!

Ты адзін міленькі
Усё ў карчме прапіў;
Жонку і дзетачкі
І хату забыў!

І. Чачот. 1844 г.

## АБВЕСТКІ.






Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.